*Двойчы герой сацыялістычнай працы трапіў у няміласць (стар. 2)*
*Выбух у Магілёве: версіі забойства (стар. 4)*

# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя
газеты СВАБОДА
Наклад 32.360
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 2 362 441

Аўторак, 14 кастрычніка 1997 г. № 113 Кошт свабодны

## Беларускі КС не адпавядае еўрапейскім патрабаванням

**Цяперашні Канстытуцыйны суд Беларусі не прыняты ў Канферэнцыю канстытуцыйных судоў Еўропы ў якасці паўнапраўнага члена.**

Як паведаміў Адам Янкевіч, дырэктар дэпартамента пры старшыні Канстытуцыйнага трыбунала Польшчы, у Варшаве, дзе на мінулым тыдні праходзіла чарговая сесія Канферэнцыі, выступіў старшыня Канстытуцыйнага суда Беларусі Рыгор Васілевіч. Заслухаўшы Васілевіча, члены Канферэнцыі не палічылі магчымым задаволіць ягоную просьбу аб прыняцці Канстытуцыйнага суда Беларусі ў Канферэнцыю. Было адзначана, што беларускі КС не адпавядае патрабаванням, неабходным для атрымання статуса паўнапраўнага члена.

Такім чынам, Беларусь, разам з Албаніяй, Арменіяй, Босніяй і Герцагавінай, Македоніяй і некаторымі іншымі дзяржавамі, застаецца асацыяваным членам Канферэнцыі канстытуцыйных судоў Еўропы. Для даведкі: у Канферэнцыі прадстаўленыя 32 еўрапейскія дзяржавы, Канстытуцыйны суд Беларусі атрымаў статус асацыяванага члена яшчэ ў той час, калі яго ўзначальваў Валерый Ціхіня.

*БелаПАН*

## Прыватны дом давядзецца страхаваць

### *Гэтая навіна наўрад ці ўзрадуе сельскіх жыхароў*

Прэзідэнт Лукашэнка на мінулым тыдні выдаў дэкрэт «Аб абавязковым страхаванні будынкаў, што належаць грамадзянам». У адпаведнасці з дэкрэтам з 1 студзеня наступнага года ў Беларусі ўводзіцца абавязковае страхаванне прыватных жылых дамоў і гаспадарчых пабудоў. Як вядома, гэтая практыка існавала ў савецкія часы — кожная хата, хлеў, лазня ды іншыя пабудовы падлягалі абавязковаму страхаванню, незалежна ад жадання гаспадара. Цяпер будзе тое самае: штогод да 1 лістапада ўладальнікі прыватных дамоў павінны будуць заплаціць страхавыя ўзносы. Напрыклад, за хату, ацэненую страхавым агентам у 60 мільёнаў рублёў, давядзецца заплаціць 0,5 працэнта ад гэтай сумы — 300 тыс. рублёў. Ад абавязковага страхавання вызваляюцца толькі тыя гаспадары, у якіх месячны даход на аднаго члена сям'і меншы за дзве мінімальныя зарплаты.

Наколькі нам вядома, ідэя рэанімаваць старую савецкую практыку нарадзілася пасля разбуральнага ўрагану, які пранёсся сёлета ўлетку па некаторых рэгіёнах Беларусі. Незалежныя эксперты расцэньваюць вяртанне прымусовага страхавання як кепскую тэндэнцыю, спасылаючыся на тое, што ў цывілізаваных краінах падобныя страхоўкі — справа добраахвотная. Аднак урадавыя чыноўнікі разводзяць рукамі: *«А што рабіць, калі людзі зусім перасталі страхавацца? Дзе браць грошы, калі раптам зноў здарыцца якое стыхійнае бедства?»* Карацей, вырашылі падвышаць свядомасць людзей праверанымі метадамі — шляхам прымусу.

І яшчэ адзін нюанс: абавязковае страхаванне будзе праводзіцца выключна праз Белдзяржстрах. Нават калі вы застрахавалі свой дом у іншай кампаніі, усё адно давядзецца заплаціць абавязковы ўзнос у дзяржаўную страхавую кантору.

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

## Схадзілі ў народ




*На здымку: маладыя франтаўцы ў калоне дэманстрантаў.*



*На здымку: у суботу на Кастрычніцкай плошчы, што насупраць прэзідэнцкай рэзідэнцыі, мінская мэрыя арганізавала продаж гародніны. Хто накупіў бульбы ды капусты — той з галаду, відаць, не памрэ.*

Акцыю пратэсту супраць збяднення насельніцтва Беларусі правялі ў нядзелю ў Мінску прадстаўнікі Народнага фронту і Свабодных прафсаюзаў.

Прыкладна дзве тысячы чалавек сабралася ў 11 гадзінаў каля ст.метро «Трактарны завод» і вуліцамі Даўгабродскай і Пляханава прайшлі да сквера на праспекце Ракасоўскага, дзе адбыўся кароткі мітынг. На ім выступілі спікер ВС Сямён Шарэцкі, старшыня прафсаюза металістаў Міхаіл Марыніч, лідэр жаночага руху Таццяна Ваніна і адзін з кіраўнікоў БНФ Юрась Беленькі, якія адзначылі, што ўсе эканамічныя праблемы дзяржавы звязаныя з некампетэнтнасцю беларускага кіраўніцтва і могуць быць вырашаныя толькі пасля адстаўкі Лукашэнкі.

Акцыя павінна была прыцягнуць увагу працоўных да праблемы беднасці большасці беларускага грамадства, таму арганізатары мерапрыемства адмыслова вырашылі правесці шэсце праз рабочыя кварталы сталіцы. Сярод дэманстрантаў выдзялялася група маладых франтаўцаў у стылізаваных турэмных робах, якія неслі пудзілы «інфляцыі», «карупцыі» і іншыя падобныя сімвалы, якія былі публічна спаленыя пасля заканчэння мітынгу. Відаць, гэтае «парушэнне пажарнай бяспекі» міліцыянты палічылі дастатковай падставай для рэпрэсіяў супраць маладых апазіцыянераў. У гэты дзень у розных раёнах горада было затрымана каля 20 чалавек, большасць з якіх выпусцілі з пастарункаў пасля складання адпаведных пратаколаў. А лідэраў «Маладога фронту» Паўла Севярынца і Яўгена Скочку ў міліцыі пратрымалі цэлую ноч і раніцай даставілі ў суд Ленінскага раёна Мінска, які аштрафаваў іх на 300 тысяч рублёў кожнага. Лёс трэцяга арыштанта — Вадзіма Кабанчука — пакуль застаецца невядомым.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Прэзідэнт і сем хадайнікаў

Чыноўнікі прэзідэнцкай адміністрацыі скардзяцца, што грамадзяне завалілі кіраўніка дзяржавы сваімі скаргамі. Прэзідэнцкім юрыстам было даручана знайсці выйсце, як з гэтым змагацца. У выніку нарадзілася канцэпцыя новага прэзідэнцкага дэкрэта з рабочай назвай «Аб мінімізацыі бюракратызму». Неафіцыйным чынам рэдакцыя СВАБОДЫ атрымала гэты дакумент, які быў распрацаваны дзяржаўна-прававым упраўленнем адміністрацыі прэзідэнта.

Што ж прапануюць прэзідэнцкія дэкрэтатворцы? На іхнюю думку, частыя і нікім не абмежаваныя звароты грамадзян у дзяржаўныя органы са сваімі скаргамі замінаюць эфектыўнай працы дзяржаўнага апарата, тым больш, што, *«часцей за ўсё ў дзяржаўныя органы звяртаюцца не тыя, хто сапраўды мае такую патрэбу, а тыя, хто зрабіў хаджэнне па інстанцыях сваім звычайным заняткам»*.

Таму, каб істотна палепшыць становішча, галоўнае дзяржаўна-прававое ўпраўленне прапануе стварыць у Беларусі *«сістэму народнага прадстаўніцтва на чале з прадстаўніком усяго народа — прэзідэнтам РБ»*. Як абсалютна справядліва адзначаецца ў праекце, *«усіх грамадзян аднаму прэзідэнту не абараніць»*, і таму Самаму Галоўнаму Прадстаўніку патрэбныя дапаможцы.

Згодна з праектам, новая сістэма народнага прадстаўніцтва будзе складацца з трох узроўняў: раённага, абласнога (6 вобласцяў і асобна горад Мінск) і непасрэдна прэзідэнцкага. Народныя прадстаўнікі (хадайнікі) раённага ўзроўню будуць абірацца працоўнымі калектывамі прадпрыемстваў, установаў і арганізацыяў, а таксама жыхарамі невялічкіх населеных пунктаў ці гарадскіх мікрараёнаў. Гэтыя хадайнікі адзіныя (!) змогуць звяртацца са скаргамі і хадайніцтвамі грамадзян свайго раёна ў дзяржаўныя органы, але толькі свайго ўзроўню. Такім чынам, усе астатнія грамадзяне будуць пазбаўленыя права на асабістыя альбо калектыўныя звароты ў любыя дзяржаўныя органы, якое гарантуецца артыкулам 40 «прэзідэнцкай» канстытуцыі.

Хадайнікі раённага ўзроўню будуць выбіраць са сваіх шэрагаў хадайніка абласнога (мінскага гарадскога) узроўню. Гэтыя сем хадайнікаў змогуць адстойваць інтарэсы грамадзян на больш высокім узроўні, а таксама перадаваць хадайніцтвы на найвышэйшы ўзровень — прэзідэнту. Але перадача скаргі ці хадайніцтва на больш высокую прыступку магчымая толькі ў тым выпадку, калі не атрымаецца вырашыць праблему на ніжэйшым узроўні.

За народнымі прадстаўнікамі на ўвесь час стараннаяў у гэтай выбарнай якасці захоўваецца былое месца працы і аклад. Апроч таго, хадайнік зможа быць прыняты любым чыноўнікам свайго ўзроўню, атрымаць адказ у найхутчэйшыя тэрміны, надрукаваць інфармацыю ў СМІ зноў-такі свайго ўзроўню. Хадайнік таксама атрымае імунітэт (недатыкальнасць). Пры кожным народным прадстаўніку мяркуецца стварыць даведачна-інфармацыйную службу, каб аператыўна рэагаваць на звароты грамадзян ці хадайнікаў ніжэйшага ўзроўню.

Сродкі на сістэму «народнага прадстаўніцтва» мяркуецца атрымліваць не толькі з бюджэту, але і непасрэдна ад грамадзян. На думку стваральнікаў праекта, новая сістэма не толькі не патрабуе дадатковых выдаткаў, але і дазволіць эканоміць дзяржаўныя сродкі: маўляў, можна будзе скасаваць службы па рабоце са зваротамі грамадзян практычна ва ўсіх дзяржаўных органах, а таксама істотна скараціць функцыі і штаты мясцовых Саветаў дэпутатаў і нават прафсаюзаў.

Маральны ж прыбытак аўтары праекта тлумачылі вельмі мудрагеліста: *«дзяржаўная ўлада і прадстаўленне народных інтарэсаў атрымаюць самастойнае значэнне і не будуць змешвацца ў адзінае цэлае, дзе ўлада падаўляе служэнне народным інтарэсам»*. У той жа час, сцвярджаюць стваральнікі праекта, улада і прадстаўленне народных інтарэсаў будуць аб'яднаныя дзякуючы прэзідэнту, які ўзначальвае абедзве сістэмы. Такі вось гегелеўскі закон адзінства і барацьбы супрацьлегласцяў у выкананні заслужанага аматара нямецкага парадку.

Праблема бюракратыі існуе ва ўсіх краінах свету, на ўсіх узроўнях. Кожная краіна па-свойму змагаецца з бюракратыяй — хто горш, хто лепш. Але Беларусь, як заўсёды, абрала свой, асобы і непаўторны шлях: «Ударым дэкрэтам па чыноўніках-бюракратах!» Аднак ужо цяпер відавочна, што гэтая бязглуздзіца найбольш адаб'ецца на нас з вамі — грамадзянах Беларусі. Што будзе, напрыклад, калі ваш твар не спадабаецца раённаму хадайніку і вашую скаргу ён не прыме? Цяпер яшчэ можна паскардзіцца іншаму чыноўніку, а заўтра? Лёс вашай скаргі будзе залежаць толькі ад раённага «прадстаўніка».

Але гэта будзе потым — пасля таго, як дэкрэт будзе падпісаны прэзідэнтам. А пакуль што, па нашай інфармацыі, праект разаслалі па інстанцыях для ўзгаднення і дапаўнення.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

*Новая паслуга*

# Ананімныя грошы

**Беларускія банкі неўзабаве павінны прапанаваць новы від паслуг — валютныя рахункі і ўклады на прад'яўляльніка.**

Іх з'яўленне чакаецца ў бліжэйшыя месяцы. Прыбалтыйскія банкі даўно практыкуюць такую паслугу, і там знаходзіцца даволі шмат сродкаў грамадзянаў нашай краіны і беларускіх фірмаў. Так званыя кодавыя рахункі ў банках краін Балтыі дазваляюць больш свабодна распараджацца грашыма — без залішняй апекі і кантролю з боку падаткавых органаў.

Канкурэнцыя прымусіла Нацыянальны банк распрацаваць палажэнне аб аналагічнай дзейнасці ў Беларусі, і пяць камерцыйных банкаў ужо звярнуліся па адпаведны дазвол.



*Усе аперацыі па «ананімных» рахунках можна будзе ажыццяўляць толькі з памяшкання банка.*

Палажэнне прадугледжвае, што кожны зможа абсалютна ананімна, без прад'яўлення дакументаў, указання свайго прозвішча, адрасу і г.д., размясціць у банку валютныя сродкі. Каб адчыніць такі рахунак або зрабіць уклад на прад'яўляльніка, трэба будзе папросту прыйсці ў банк і ўнесці мінімальную суму (яе памер вызначае камерцыйны банк). Грошы на рахунак можна ўносіць наяўнымі або перавесці з-за мяжы, або з аналагічнага рахунка. Для карыстання рахункам банк выдае кліенту адпаведныя дакументы і паролі.

Аднак калі кодавымі рахункамі ў многіх прыбалтыйскіх банках магчыма кіраваць па тэлефоне або праз факс, у Беларусі ўсе аперацыі можна будзе ажыццяўляць толькі з памяшкання банка пры дапамозе спецыяльнай камп'ютэрнай сістэмы. Больш за тое: здымаць наяўную валюту з такога рахунка давядзецца толькі праз банкамат — аўтаматычнае прыстасаванне для выдачы грошай. Між тым, на сённяшні дзень банкаматы мае толькі Белзнешэканамбанк, прычым у колькасці ўсяго пяць штук, і толькі ў Мінску. Праўда, з такога рахунка можна без перашкод перавесці грошы за мяжу.

Што датычыць канфідэнцыяльнасці, то інфармацыя аб аперацыях на рахунку можа быць прадастаўленая дзяржаўным органам, якія маюць права кантролю за рахункамі фізічных асобаў. Аднак у любым выпадку асоба ўладальніка ўкладу павінна заставацца таямніцай.

На думку спецыялістаў, гэтае новаўвядзенне ў банкаўскай справе пакуль што істотна не зменіць сітуацыю. Умовы вядзення кодавых рахункаў банкамі Балтыі ўсё роўна застаюцца больш зручнымі, а нашая неразвітая інфраструктура (недахоп банкаматаў) стварае для кліентаў дадатковыя цяжкасці. Аднак сам прэцэдэнт «ананімных» банкаўскіх рахункаў, з аднаго боку, будзе спрыяць пэўнай акумуляцыі валютных сродкаў у беларускіх банках, а з другога — стымуляваць развіццё тэхнічнай аснашчанасці саміх банкаў.

**Ян ГАЛЕВІЧ**

***ГАНДАЛЬ***

# Зручней чытаць — даражэй плаціць

**Днямі павінны пачацца масавыя інспекцыі па праверцы гандлёвых арганізацыяў — прычым не толькі буйных супермаркетаў і універмагаў, але і кіёскаў ды «чаўнакоў».**

Як паведамілі ў міністэрстве гандлю, гэтым разам інспектары збіраюцца прасачыць, як гандляры выконваюць патрабаванні Савета міністраў Беларусі аб забароне з 1 кастрычніка гандлю імпартнымі прадуктамі харчавання і прамысловымі таварамі без адпаведных цэтлікаў на беларускай або рускай мовах.

Нагадаем, што адпаведную пастанову ўрад прыняў яшчэ ў траўні. Цяпер гандляр абавязкова павінен прадаставіць пакупніку інфармацыю на беларускай або рускай мовах пра назву прадукта, краіну вырабу і краіну паходжання, дату вырабу, тэрмін прыдатнасці і ўмовы захоўвання. Для прамысловых тавараў інфармацыя павінна яшчэ ўтрымліваць звесткі і пра асноўныя спажывецкія характарыстыкі тавару і правілы карыстання (тыпу: не мыць мылам і не чысціць ваксай). Уся гэтая інфармацыя павінна змяшчацца на ўпакоўцы ці на асобным аркушы, які абавязкова прыкладаецца да тавару.

Канешне, мера неабходная, але лёгка выканаць патрабаванні змогуць хіба буйныя фірмы, якія займаюцца імпартам і для якіх не будзе праблемы замовіць сваім пастаўшчыкам яшчэ адзін надпіс на ўпакоўцы. Не будзе праблем і для тых, хто атрымлівае тавары з Расіі — расійскі рынак нашмат большы за беларускі, а там падобнае правіла дзейнічае ўжо даўно. Цяжэй дробным гандлярам. *«Відаць, па начах будзем пісаць ад рукі этыкеткі да кітайскіх і карэйскіх кепак і куртак, нічога не зробіш»*, — дзяўчына-«чаўнок» з мінскага рынка «Ждановічы». Сапраўды, нічога не зробіш. Тым, хто не выконвае пастанову, пагражае штраф у 25% ад агульнага кошту прададзенага тавару. Пазбегнуць штрафу могуць толькі тыя, хто прадае тавары, набытыя па кантрактах, заключаных да 21 траўня 1997 г., але з 1 студзеня 1998 г. яны таксама мусяць перайсці на новы парадак гандлю.

Што б там ні было, але фірмы не адмовяцца ад свайго бізнесу — не ў першы раз іх заціскаюць. Большасці «чаўнакоў» таксама не застаецца іншага выйсця, як толькі вучыцца працаваць па новых правілах. А ў выніку пацерпіць пакупнік. Канечне, прыемна прачытаць, як правільна карыстацца красоўкамі або шапкай, але ж за гэтую дробязь давядзецца даплачваць: каштуе і папера, і друк... Падлічыш — і ўсё задавальненне адразу знікне.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# Пушкин и Лукашенко

**Семен БУКЧИН**

Три события одного дня я безуспешно пытаюсь увязать. По сообщению БелТА, 7 октября Павел Шеремет *«уже в 23.40 находился в своей квартире в Минске»*. В этот же день А.Лукашенко подписал указ № 502, которым постановил *«объявить в Республике Беларусь 1999 год годом А.С.Пушкина»*. И в этот же день, выступая на похоронах в Могилеве видного областного функционера, правитель заявил, что принимает вызов тех, *«кто заказал его»*.

— Чего тут увязывать? Так уж совпало, — скажет читатель. Совпало-то оно совпало. А вот не отпускают эти совпадения почему-то... Ну посудите сами.

Поздним вечером Шеремета, как опаснейшего преступника, в наручниках (о чем БелТА предпочитает умолчать) подвозят к его дому в Минске. Акция проходит в условиях величайшей секретности. Бедняга Павел всю дорогу от Гродно так и не догадывается, куда же его везут. Надо полагать, план депортации из гродненского изолятора был лично утвержден на высочайшем уровне. Задача более чем ясна: не допустить торжественной встречи узника у стен гродненской тюрьмы. Цветы, объятия, недозволенные речи, опять же видео- и фотосъемка — такого триумфа правитель стерпеть не мог. Кроме того, кто его знает, вдруг стихийная встреча-митинг в Гродно перерастет в народное восстание против режима? Воспаленному мозгу, возможно, представилась такая картина: якобы преданные омоновцы оказываются предателями, снимают с Шеремета наручники, автомобиль с недавним заключенным движется сквозь забрасывающую его цветами толпу, восторженная публика, кричащая «Шеремета в президенты!», шеренгами стоит вдоль шоссе Гродно–Минск, и вот уже Шеремет торжественно входит в его резиденцию в Минске, и Шейман с Агольцом отдают ему честь, а Ваня Титенков раскатывает под ногами красную ковровую дорожку...

Ужас! Кошмар! Страшный сон! А тут на столе лежит указ о Пушкине. Надо подписывать. Я почему-то не думаю, что наш правитель хорошо знает биографию Пушкина. Но он несомненно проявил себя как стихийный последователь Николая I. Все думали, что Пушкина будут торжественно отпевать в Адмиралтейской церкви, а гроб тихонько ночью перевезли в Конюшенную. В результате публика оказалась одураченной. А потом тихонечко ночью же вывезли в Псковскую губернию. В «Отчете о действиях корпуса жандармов за 1837 год» говорилось: *«В сем недоумении и имея в виду отзывы многих благомыслящих людей, что подобное как бы народное изъявление скорби о смерти Пушкина представляет некоторым образом неприличную картину торжества либералов, — высшее наблюдение признало своею обязанностью мерами негласными устранить все почести, что и было исполнено»*.

— Ну ты даешь! — скажет тот же придирчивый читатель. — Шеремета с Пушкиным сравнил!

Да не сравниваю я их! Я больше про действия властей. Хоть сто, хоть двести лет пройди, а у нас ничего не меняется. Главное — не допустить «неприличной картины торжества либералов». Поистине неистребим дух «высшего наблюдения»! А еще спрашиваем друг друга: почему у нас то да это плохо? Не потому ли, что мы насквозь пропитаны этим самым духом?

Ну и потом, не я же виноват, что день освобождения Шеремета стал днем подписания указа «Об объявлении 1999 года годом А.С.Пушкина».

— Хорошо, — согласится, возможно, читатель, — ну а при чем тут выступление Лукашенко на похоронах в Могилеве?

Так ведь я сам над этим думаю: при чем? Какие-то странные ассоциации возникают... Президент Республики Беларусь обращается к уголовникам на их же тюремно-лагерном жаргоне. Он так и говорит — *«кто его заказал»*. Между тем употребление подобного жаргона далеко не безвинное занятие. Люди, принимающие такую лексику, не всегда отдают себе отчет в том, что она отражает соответствующий — в данном случае, тюремно-лагерный — образ мышления. «Они его заказали, а мы сейчас закажем их». Только называться это будет борьба с преступностью.

Я пытаюсь представить себе, как Николай I вызывает к себе шефа жандармов генерал-адъютанта Бенкендорфа и грозно спрашивает его: кто заказал Пушкина? А тот тянется в струнку и докладывает, что пришла, мол, малява, из которой ясно, что во всем виновата великосветская чернь, эти мокрушники, большие делаши, зачухованные фраера, петушня и вольтанутые...Ну и сама мадам Пушкина ховыра еще та...

А Николай слушает и думает: а не сделать ли тебе самому дальняк по четвертой ходке на Печору, в кичу локшовую, где все брушат, вантажа нет и хвостом не бьют.

Не такая уж и сложная картина...

А вот попробуй соединить эти концы: как это в один день можно освободить Шеремета, подписать указ о Пушкине и продемонстрировать народу знание тюремно-лагерного арго.

Оказывается, можно, если очень хочется одновременно быть великим поборником законности, лидером мирового славянства, ну и одновременно не отказываться от того, что нынче обозначается модным словом «ментальность».

Конечно, это замечательно, что среди всех государственных забот — тюрем, похорон — наш правитель не забыл о Пушкине. *«Народ, издревле нам родной»*, — писал Александр Сергеевич о белорусах. Ну что поделаешь, был Пушкин государственником, имперщиком. Но я почему-то думаю, что мы бы с ним сговорились. Все-таки писал же он:

*Свободы сеятель пустынный,*
*Я вышел рано, до звезды...*

Но вот зачем Лукашенке понадобился *«свободы сеятель пустынный»*?

Я думаю, что объявление «пушкинского года» в Беларуси — это новый вызов Ельцину. «Сорокалетний» белорусский правитель дает в очередной раз понять «восьмидесятилетнему» кремлевскому старцу, что подлинный центр русской культуры здесь, в Беларуси. И неизвестно, где еще мощнее пройдут торжества в 1999 году. Может быть, ближе к юбилею будет решен вопрос (через референдум, конечно же) о переносе могилы поэта из Пушкинских гор куда-нибудь под Шклов. Поскольку там, в России, русские идеалы преданы и поруганы, а здесь, в Беларуси, они в подлинной чести.

Сначала, разумеется, Ленина заберем к себе из мавзолея, поскольку они его все равно выносить собираются. А потом и Пушкина. И будут они рядом лежать в белорусской земле, символ эдакого ленинизма-пушкинизма. И в праздничные дни будут над ними наши «авторитеты» речи произносить. Вроде того, что напрасны надежды на бакшиш общаковый и зря по зоне идет параша об амнистии.

# Снова «красный террор»?

**Вадим КАЗНАЧЕЕВ**



Во время траурной церемонии прощания с председателем Комитета госконтроля по Могилевской области Евгением Миколуцким А.Лукашенко потребовал, чтобы заказчики убийства в недельный срок признались в своем злодеянии. Раскрытие этого преступления Лукашенко взял под личный контроль. Однако назначенный срок подходит к концу, а преступники не обнаружены.

Крайне жесткие высказывания Лукашенко на траурной церемонии вполне объяснимы: Лукашенко вообще человек эмоциональный, а тут в результате теракта погиб его соратник и земляк. В такой ситуации простительно что-то сказать сгоряча. Хуже, если этими высказываниями определялась линия, которая действительно будет проводиться в жизнь.

*«Требую от милиции и КГБ, прокурорских работников и судей: с сегодняшнего дня любое, самое мелкое правонарушение или преступление должно караться немедленно и беспощадно»*, — заявил Лукашенко. При этом, правда, он не пояснил, почему только с *«сегодняшнего дня»* (т.е. с момента убийства Е.Миколуцкого) вопрос ставится столь жестко. Ведь в последние годы практически каждый день совершались тяжкие преступления, в том числе и убийства. Как свидетельствуют социологические опросы, рост преступности — одна из самых главных проблем, которые волнуют граждан. Неужели дело только в том, что теперь убит человек, *«который всегда выполнял волю президента по первому его требованию»*?

Пресс-центр МВД сообщил, что *«органы и подразделения внутренних дел республики, выполняя указание президента, перешли на работу по усиленному варианту несения службы»*. Хотелось бы спросить: этот самый «усиленный вариант» теперь станет нормой, в таком режиме милиция будет работать всегда? Если так, то почему не работала раньше — неужели состояние дел в сфере борьбы с преступностью ее устраивало? А если «усиленный вариант» — только временная мера, то это всего лишь очередная кампанейщина, которая, вероятно, даст возможность поставить несколько лишних галочек в отчетах, но никак не улучшит положение в целом.

Как стало известно из неофициальных источников, после убийства Миколуцкого Лукашенко существенно усилил свою и без того непомерную охрану. Теперь, когда Лукашенко проезжает по улицам, из окна его автомобиля торчит дуло автомата — наверное, как наглядное предупреждение тем, кто, по словам Лукашенко, *«добирается до президента»*. Не сомневаюсь, что соответствующим органам удастся повысить эффективность защиты одного отдельно взятого Лукашенко от возможных посягательств. А вот что касается остальных преступлений — это вряд ли.

В борьбе с преступностью эффект может принести лишь планомерная работа, а не кавалерийские наскоки, вызванные грозными речами «батьки». Причина удручающего состояния в этой сфере — недостаток профессионализма милиции, слабая материально-техническая оснащенность. Эти причины невозможно устранить угрозами и бранью в адрес преступников, пусть даже из уст первого лица в государстве. Для улучшения нужна очень банальная вещь — деньги (т.е. успехи в борьбе с преступностью напрямую связаны с состоянием экономики). И, конечно, расстановка приоритетов. Едва ли что-то улучшится, пока милиционеров будут поощрять не столько за раскрываемость преступлений, сколько за успешные действия по разгону демонстраций. Кроме того, если бы милицию поменьше выстраивали в плотные кордоны по случаю проезда «батьки», если бы она занималась не охотой на тихих пьяниц и старушек, торгующих цветами и сигаретами, а сконцентрировала усилия на том, для чего она и существует в стране, результаты борьбы с преступностью, видимо, были бы повыше.

Кроме того, от тех людей, чья работа заключается в охране закона, прежде всего необходимо требовать, чтобы они сами его неукоснительно соблюдали. Однако оговорка Лукашенко насчет того, что все должно делаться в рамках закона — это скорее дань форме. Трудно ждать соблюдения законности от человека, который сам стоит на пороге предъявления ему Верховным Советом обвинения в захвате власти неконституционным путем. Да и вообще Лукашенко с самого начала деятельности во главе государства отнюдь не являл собой образец законопослушного гражданина — рамки закона всегда были ему тесны. Говоря о соответствии закону, Лукашенко прозрачно намекнул на прямо противоположное: он угрожал беспределом со стороны властей. Это подтверждается и фразой: *«Хватит смотреть, что о нас скажут по российским телеканалам или, тем более, там, на Западе»*. На что обращают внимание российские телеканалы и Запад, за что они критикуют Лукашенко? За вопиющие нарушения прав человека.

В свое время большевики начали «красный террор» после убийства Урицкого (они тоже руководствовались при этом «революционной законностью»). То же и с репрессиями 37-го года — они развернулись после убийства Кирова. Просматриваются в выступлении Лукашенко и моменты милого сердцам большевиков классового подхода — это слова о *«грязных предпринимателях и банкирах»*, которые для Лукашенко всегда были «классово чуждыми». А под эту же гребенку заодно можно стричь и остальных — оппозицию, независимую прессу, инакомыслящих всех мастей. Всё это мы уже проходили. По истории. В том числе и КПСС.

***ВЗРЫВ В МОГИЛЕВЕ***

# Версии убийства

Вернемся к взрыву в Могилеве. Почему он прозвучал? Уже к обеду в тот злополучный понедельник для его расследования преступления в Могилев прибыла столичная следственно-оперативная группа из МВД и прокуратуры республики. К расследованию подключено большое число экспертов и специалистов по расследованию террористических актов. Кстати, уголовное дело возбуждено именно по статье 63-й «Террористический акт». Известно, что следственная группа отрабатывает три версии: политическое убийство, убийство из-за мести, корыстное преступление. Попробуем проанализировать каждую из трех версий.

## Политическое убийство

О вероятности политического убийства сказал на траурном митинге Александр Лукашенко. *«Я отдаю себе отчет, что это гнустное преступление совершено на этой земле не случайно. Они долго подбирались к президенту — не получилось. Решили начать с людей, которые всегда были рядом с президентом, которые всегда выполняли его волю по первому требованию. Людей, которые боролись с этой нечистью...»*

Чаще всего по политическим мотивам убивают либо лидеров, либо вероятных кандидатов в лидеры. С этой точки зрения политическое убийство Миколуцкого — нонсенс, так как никакой самостоятельной политической игры Евгений Петрович не вел.

Также маловероятно убийство с целью запугивания президента. При достаточно высокой цене, которую, наверное, заплатили заказчики данного преступления, можно было придумать и нечто более «экстравагантное». Кроме того, преступники дали бы понять о своих целях.

## Месть

В отместку за причиненную боль толерантные белорусы стараются дать ответную пощечину, пытаются уколоть в другом вопросе, но, как правило, не взрывают. Получить моральное удовлетворение за 10—20 тысяч долларов (примерно столько могло стоить убийство Миколуцкого) — роскошь, которую могут себе позволить не многие. А в провинциальном Могилеве — тем более.

Заказное убийство — это, в некотором смысле, инвестиции. А вкладывает деньги обычно тот, кто собирается получить намного больше. Поэтому более жизненна следующая версия убийства.

## Корыстное преступление

До сего момента заказные убийства в Беларуси совершались либо в отношении коммерсантов, либо в отношении криминальных лидеров. Попробуем перечислить максимальное количество вариантов.

Евгений Миколуцкий, имея хорошие результаты в своей работе, мог претендовать на скорое повышение и «подвинуть» кого-то. В таком случае этому «кому-то» было выгодно не допустить такого поворота событий, но если решение «подвинуть» уже принято, то проблема кардинально не решается физическим устранением претендента.

Убийство Евгения Миколуцкого могло быть выгодно реальному претенденту на его должность. Однако в условиях нашего государства никто не может быть уверен, что преемником назначат именно его. Риск достаточно велик.

Также маловероятно убийство из-за неофициального участия в бизнесе либо скупке собственности на подставные лица. Если бы такие операции Евгением Миколуцким производились, о них, скорее всего, должна была знать супруга. И в этом случае убийство в подобных корыстных целях — совершенно нелогичный поступок. Если только не допустить, что преступник был уверен, что в живых не останется никого.

Есть версия, что убийство Миколуцкого связано с некоторыми проверками, которые его ведомство проводило в последнее время. Однако Миколуцкий сам проверок не проводил. Кроме того, проверяемым в настоящее время организациям даже не повезло — они будут подвергнуты еще более пристрастному контролю, чем это было до теракта.

И, наконец, остается версия, что преступление связано с желанием Евгения Миколуцкого совершить некоторые проверки в будущем. Это не мог быть запланированный график — тогда убийство, опять же, не имеет никакого смысла. Это могла быть только внеплановая проверка, информация о которой должна была быть известна заранее и которая без личного распоряжения Миколуцкого не могла состояться. То есть, либо Евгений Петрович самостоятельно задумал проверку и поделился информацией об этом только с будущей «жертвой», либо вероятность проверки предложил некто иной, который без решения Миколуцкого не мог ее осуществить и без него не сможет о ней ничего сказать.

Кто же это мог быть такой, для проверки которого надо у него самого спрашивать разрешения? И кто может быть уверен в том, что, устранив Евгения Миколуцкого, никто другой на проверку не решится? И кого имел в виду Александр Лукашенко, говоря на траурном митинге, что заказчики преступления находятся здесь: тех, кто стоял перед ним, либо тех, кто находился за его спиной?

**Артем КУЧИНСКИЙ**



*На снимках: президент Лукашенко выступает на траурном митинге в Могилеве. За его спиной — Шейман, Титенков и другие.*

*Евгений Миколуцкий (на снимке внизу) был похоронен в родной деревне Саськовка Шкловского района.*



*Мнение читателя*

## Убийца Миколуцкого будет найден

Нужен был повод для ужесточения мер в отношении граждан своей страны, и этот повод нашелся — убийство Миколуцкого. Не хотелось бы проводить параллели, но заявление Лукашенко об ужесточении мер за малейшее правонарушение наводит на мысль о возвращении 1937 года.

Убит человек. Это ужасно, и не важно, кем он был по должности — прежде всего он был человеком. Это горе для близких и друзей и, конечно, для Лукашенко. По его словам, он был ему другом, а потерять друга — это всегда тяжело, президента можно понять в его горе. Непонятно другое: почему, когда разбился автобус с чернобыльскими детьми, президент устроил грандиозный праздник и не соизволил даже выразить соболезнование родителям погибших детей. Зато убийство чиновника вызывает столь бурную реакцию Лукашенко. Он бросает все дела и едет в Могилев, чтобы публично извиниться. Почему именно извиниться, а не выразить соболезнование перед родными и близкими погибшего — я так и не понял.

Мафией убит человек, брошен вызов, и не лично Лукашенко (слишком он возвеличивает свою персону), а всему нашему обществу. С этим надо бороться, пока заказные убийства не стали обыденностью, как в России. Зло неотвратимо должно быть наказано, но бороться надо с преступниками, а не с народом, — такой можно сделать вывод из его заявления. И дай Бог, чтобы правоохранительные органы нашли за семь-десять отмеренных президентом дней настоящего убийцу. Я боюсь, что когда эти десять дней пройдут, а убийцу не найдут и нужно будет докладывать президенту, что преступник пойман и арестован (другого доклада Лукашенко, по-видимому, не ждет), генералы КГБ и МВД, чтобы спасти свои погоны, найдут «козла отпущения», заставят какого-нибудь бедолагу сознаться в несовершенном преступлении, а это, как мы уже убедились на примере телевизионной группы Адамчука, делать они умеют.

**А.КАСПЕРОВИЧ**, *г.Минск*

# Афганистан – страна опия

**Придя к власти, мусульманские фундаменталисты из движения Талибан торжественно пообещали уничтожить все маковые плантации в Афганистане. Однако, как показало недавно проведенное исследование, в 1997 г. производство опиума не только не сократилось, но и возросло на 20%, причем основной прирост пришелся на контролируемые талибами провинции.**

По прогнозам ООН, в этом году в Афганистане будет произведено 2.800 тонн опиума — на 500 т больше, чем в 1996 г. Как следует из специального доклада ООН, сегодня из афганского сырья производится около половины всего потребляемого в мире героина. В прошлом году Афганистан занимал второе место после Бирмы, произведшей 2.500 тонн опиума. Нынешнее увеличение производства обещает мощный приток дешевого героина в Европу, которая уже сейчас потребляет около 80% наркотика, полученного из выращенного в Афганистане опиумного мака. Оставшаяся часть будет переправлена в США, которые снабжаются в основном из Колумбии и Южной Азии.

По мнению ООН, талибы, удерживающие власть в 22 из 32 афганских провинций, контролируют до 96% маковых плантаций. Нынешний небывалый урожай объясняется благоприятной погодой, улучшением технологий и расширением посевных площадей, занятых под опиумный мак. По свидетельству экспертов, посетивших 16 провинций, талибы не только не уничтожают маковые плантации, но сами охраняют склады и сопровождают караваны с наркотиками. Министр культуры Афганистана Абдурахман Хотаки заявил: *«Мы знаем, что мак выращивается в Афганистане почти везде. Но прежде чем запретить крестьянам это делать, мы должны выдать им какую-то компенсацию, а у правительства нет на это средств».*

*International Herald Tribune*



*На снимке: молодой человек принимает дозу героина на улице в Карачи. Власти считают, что в 10-миллионной столице Пакистана по меньшей мере 350 тысяч героиновых наркоманов.*

# Всем миром – на борьбу с самоубийствами

**Всемирная организация здравоохранения намерена в самое ближайшее время разработать и принять конкретные меры против постоянно растущего количества самоубийств во всем мире.**

Эксперты ВОЗ уже давно высказывали серьезную обеспокоенность тем, что количество самоубийств в отдельных регионах мира почти приблизилось к количеству людей, умирающих от старости. Такое положение, по мнению специалистов, свидетельствует о тяжелейшем общественном кризисе в тех странах, где отмечаются высокие показатели суицидов.

В частности, только в благополучной во всех отношениях Австрии на тысячу человек населения ежегодно добровольно уходят из жизни более двадцати пяти человек. Предпринимают же попытки суицида более ста человек. Всемирная организация здравоохранения призвала правительства всех стран оказать ей всемерную поддержку и осуществить финансирование разработки программ, направленных на борьбу с самоубийствами.

# Американский рекорд смертных казней

**Соединенные Штаты Америки в этом году превысили свой собственный рекорд по количеству приведенных в исполнение смертных приговоров, сообщает «Ассошиэйтед Пресс».**

36-летний убийца Рикки Ли Грин, казненный на прошлой неделе в одной из тюрем штата Техас, стал пятьдесят восьмым по счету человеком, в отношении которого в этом году был приведен в исполнение смертный приговор. Существовавший до сих пор рекорд по смертным казням был установлен более сорока лет назад во время разгула организованной преступности и постоянных мафиозных разборок.

# Она сама себе папарацци

**Дженнифер Ригли — молодая женщина, которая решила сделать то, на что никто до нее не отваживался. В своей спальне она установила камеру, которая снимает круглосуточно семь дней в неделю, а потом помещает снимки в *Internet* на свой сайт *JenniCam*.**

*JenniCam* можно найти по адресу *http://www.boudoir.org/*. Этот сайт пользуется огромной популярностью. За день регистрируется до 20 миллионов обращений к нему.

Большую часть времени фотографии не представляют собой ничего особенного: Дженнифер разговаривает по телефону, работает за своим компьютером. Но в подходящее время можно увидеть и другое — Дженнифер переодевается или выходит из душа.

Этот сайт начал свою работу 1,5 года назад, и с тех пор появилось много *web*-страничек, созданных в честь этой женщины. Ее даже называют Королевой Киберпространства.

По словам самой Ригли, целью этого проекта было дать любому желающему возможность посмотреть, как живет другой человек, образовать что-то вроде виртуального окна в чужой мир. Она говорит: *«Самое главное то, что можно видеть настоящего человека и его реальную жизнь».*

Есть и другие сайты, подобные этому. Но много людей говорят, что начала все именно Дженнифер. Около 5,5 тысяч людей платят ежегодно 15 долларов, чтобы стать подписчиками *JenniCam* и получать свежие картинки каждые 3 минуты. Гости могут бесплатно получать новое изображение каждые полчаса.

В самом ближайшем будущем Дженнифер планирует отправиться в путешествие по Европе. Чтобы компенсировать вид пустой комнаты, она взяла камеру с собой и будет регулярно загружать новые снимки на свой сайт. Жизнь Сети продолжается...

**Андрей КОНОНОВИЧ,**
*Компьютерные вести*

# Слабые наркотики тоже убивают

**Несколько таблеток якобы безобидных экстази, проглоченных на дискотеке, не только вредны для здоровья, но и могут стать причиной смерти молодых людей.**

К такому выводу пришли эксперты Всемирной организации здравоохранения (ВОЗ), начавшей в этом году кампанию за запрещение так называемых «наркотиков третьего порядка» (*extasy, speed, ice*), употребление которых в последнее время приобрело характер массовой эпидемии. Потребление амфетаминов стремительно возрастает и уже стало частью молодежной культуры на Западе.

Однако мало кто знает, какой опасности он подвергается, уколовшись или наглотавшись этих модных «слабых наркотиков». По мнению ВОЗ, употребление наркотических средств типа экстази может привести к повреждению печени, головного мозга, глубокому расстройству нервной системы, сердечной аритмии, сгущению крови и конвульсиям. Всё чаще происходят смертельные случаи. Среди молодежи распространено мнение, что опасно только регулярное употребление наркотиков. Однако, как показали последние исследования ВОЗ, новички подвергаются не меньшему риску, чем заядлые наркоманы.

70-е годы были эпохой героина, следующее десятилетие ознаменовалось распространением кокаина, сегодня главную опасность представляют психостимуляторы типа амфетаминов. Они отличаются простотой изготовления, дешевизной и приносят баснословные прибыли торговцам наркотиками. Значительно меньшая стоимость по сравнению с другими наркотиками сделала их исключительно популярными среди молодежи. Во многих странах их употребление уже превысило потребление кокаина и героина вместе взятых, а в США смертность от употребления амфетаминов превысила смертность от употребления традиционных наркотиков.



*«Слабые» наркотики в некоторых странах стали частью дискотечной культуры.*

Несколько цифр позволят лучше представить размеры катастрофы. 87% задержанных в Японии наркоманов употребляли амфетамины. На Филиппинах и в Чешской Республике эти цифры составляют соответственно 60% и 70%. Проведенное в Великобритании исследование показало, что 14% молодежи от 16 до 25 лет регулярно употребляют эти препараты. «Только решительные и эффективные действия могут сдержать распространение этих наркотиков по всему миру», — считает профессор Хироши Накаяма, генеральный директор ВОЗ.

Борьбу следует вести не только с незаконным использованием амфетаминов, но и с их чрезмерным применением в медицине. И хотя их доля на фармацевтическом рынке не превышает 1%, тем не менее в США их легально производится на сумму 100 млн. долларов в год. Как сообщает ВОЗ, несмотря на общую тенденцию к сокращению применения амфетаминов в медицине, в некоторых странах продолжают ими злоупотреблять. Красноречивым примером служит применение амфетаминов водителями-«дальнобойщиками», прибегающими к ним для снятия усталости.

И все же эти частные аспекты немного значат по сравнению с тревожным распространением «слабых наркотиков» среди молодежи, что чревато весьма грозными медицинскими и социальными последствиями.

*Le Figaro*

# Новый Берлин – символ примирения

В январе 2000 года Берлин станет столицей единой Германии. В третий раз за свою историю немецкая столица расположится на берегах реки Шпрее. Но это будет уже не столица прусского королевства или гитлеровского рейха. Новый Берлин станет символом национального примирения двух Германий.

## Как в сказке

Ночью Берлин напоминает фантасмагорический город из утопических романов о будущем. Лес подъемных кранов, невиданное даже для Европы скопление строительной техники, освещенные прожекторами фасады головокружительной высоты зданий...

До того, как стать в бывшей ГДР огромным пустырем, площадь Потсдамер Платц была сердцем Берлина 20-х годов. Перерезанный стеной, заросший высокими сорняками, в которых даже водились кролики, этот район столицы был самым пустынным и опасным центром города в мире. Именно здесь коммунистическая полиция ГДР чаще всего открывала огонь по берлинцам, пытавшимся убежать в ФРГ. Сегодня, благодаря смелым архитектурным решениям и передовым технологиям, это мифическое место как в сказке быстро меняет свой облик.

## Фараоновский размах

Теперь это место вечного праздника. Найдя раздел «Берлин» в сети *Internet*, можно буквально час за часом следить за ходом этой «исторической» стройки. Вот площадь Лейпцигер Платц. Огромный красный контейнер с надписью *Info-Box*, установленный на высоких металлических опорах, дает круговую панораму работ. С этой высоты стройка с ее котлованами и экскаваторами напоминает пейзаж лунной поверхности. Макеты и виртуальная анимация переносят вас в будущее, и вы оказываетесь среди бассейнов, водных каскадов, фонтанов, пешеходных зон и аркад, по обе стороны которых возвышаются здания из стекла и бетона.

Работы ведутся с размахом, достойным египетских фараонов. Чтобы не нарушить слой грунтовых вод и сохранить редкие виды деревьев в парке Тиргартен, бригады аквалангистов выполняли земляные работы под водой. Но больше всего впечатляет перенос на новое место императорского зала, располагавшегося в отеле «Эспланада». 1.300-тонный Кайзерзаал был перевезен на расстояние 75 м по специально проложенным для этого гидравлическим рельсам.

## Прекрасные улицы, подземные артерии

Параллельно со строительством зданий ведутся работы по сооружению подземной железной дороги для движения скоростных поездов на магнитной подушке «Трансрапид», которые будут двигаться со скоростью 450 км/час и свяжут центр Берлина с Гамбургом и Амстердамом. Соединенные между собой после объединения двух Германий линии метро *U-Bahn* (западноберлинская линия) и *S-Bahn* (восточноберлинская линия), трамваи и автобусы будут перевозить более 1 млрд. пассажиров в год.

Еще в начале века власти Берлина намеревались прорыть железнодорожный тоннель под Потсдамер Платц и Тиргартеном. В 60-х годах рассматривался также проект прокладки под площадью автомобильного тоннеля. Но из-за Берлинской стены пришлось довольствоваться автострадой В-96, которая долгие годы отравляла воздух выхлопными газами. Сегодня принято решение о ее закрытии и сооружении трех подземных артерий: линии метро, подземной железнодорожной ветки, которая свяжет северный и южный районы столицы, и новой подземной автострады В-96, которая пройдет на глубине 700 м под Тиргартеном и 570 м под Потсдамер Платц. С этой целью река Шпрее была временно перекрыта и пущена по новому руслу.

Власти уверены, что после окончания работ этот новый ансамбль из трех подземных артерий и знаменитой Фридрихштрассе ни в чем не будет уступать таким живописным районам Берлина, как Унтер ден Линден и Курфюрстендамм. Еще недавно изуродованная Берлинской стеной, некогда одна из самых крупных торговых артерий Берлина, первая улица в мире, освещенная электричеством, Фридрихштрассе перестраивается международной группой архитекторов в истинно берлинском стиле. Не зря, наверное, именно эту улицу выбрали Арнольд Шварценеггер, Сильвестр Сталлоне и Брюс Уиллис для одного из своих знаменитых ресторанов «Планета Голливуд».

*Le Figaro*

*Полосу подготовил* **Владимир АБАНИН**

СВАБОДА
14 кастрычніка 1997 г., № 113

# Ці мог быць Моцарт плагіятарам?

**Італьянцы, якія заўсёды прэтэндавалі і прэтэндуюць на пальму першынства ў свеце музыкі, знайшлі зачэпку, каб абвінаваціць Вольфганга Амадэя Моцарта ў плагіяце.**

У архівах Неапалітанскай кансерваторыі даследчыкі адшукалі рукапіс «Венецыянскай сімфоніі» кампазітара Паскуале Анфосі і ўгледзелі падабенства гэтага твора з фінальнай тэмай славутага моцартаўскага «Рэквіема». Але сімфонія была напісаная на 16 гадоў раней за «Рэквіем». Акрамя таго, Анфосі быў у свой час вельмі папулярны ў Еўропе, і італьянскія даследчыкі вылучылі версію, што Моцарт — нахабны плагіятар. Да ўсяго неапалітанскія музыказнаўцы сцвярджаюць, што ўплыў Анфосі заўважны таксама і ў операх Моцарта «Дон Жуан», «Чароўная флейта», «Жаніцьба Фігара».

Усё гэта дало падставы для бурных дыскусій у музычным свеце. Прычым, захапіўшыся «выкрываннем» Моцарта, некаторыя экспансіўныя італьянцы далі поўную волю сваім эмоцыям і дайшло нават да абсурдных абвінавачванняў. Маўляў, кампазітар наўмысна ўзяў сабе псеўданім Вольфганг Амадэй (а ягонае сапраўднае імя — Еган Крысастам Вольфганг Тэафіль), каб у Вене, дзе Моцарт жыў з 1781 года да смерці ў 1791 г., замесці сляды «музычнага крадзяжу».

Аднак, падобна, аўтарытэт Моцарта як сусветна прызнанага геніяльнага кампазітара перамагае. У прыватнасці, італьянская газета *La Stampa* лічыць, што запазычанне з Анфосі калі і мела месца, то было абсалютна несвядомым. Добра вядома, што Моцарт меў надзвычайную музычную памяць і нават у дзяцінстве мог паўтарыць на інструменце або запісаць нотамі твор, які чуў усяго адзін раз. Так і ў гэтым выпадку — мелодыі Анфосі маглі запасці ў вуха Моцарту, а пасля нейкім чынам адбіцца на ягоных уласных творах.



*Вольфганг Амадэус Моцарт. З гравюры XVIII ст.*

А вось лонданская *Times* падыходзіць да праблемы з уласцівай брытанцам узважанасцю. У тыя часы не было ніякага паняцця пра аўтарскія правы, піша газета, таму няма і прадмета спрэчкі. Акрамя таго, Анфосі быў папулярны толькі тады, а Моцарт славуты ва ўсе часы, — ставіць апошнюю кропку *Times*.

# Амерыку любіць кожны кітаец, які пра яе ведае

**Нягледзячы на ўсе ідэалагічныя супярэчнасці паміж палітычным курсам дзвюх дзяржаваў, большасць кітайцаў любіць Амерыку.**

Асаблівай папулярнасцю ў Кітаі карыстаюцца амерыканскія сталоўкі тыпу *fast food* («хуткая яда»), кітайцы проста абагаўляюць Сільвестра Сталонэ і — насуперак афіцыйнай прапагандзе — лічаць ЗША надзейным гандлёвым і палітычным партнёрам. Такія вынікі дало афіцыйнае апытанне, праведзенае Кітайскім інфармацыйным агенцтвам. Даследаванне таксама паказала, што Злучаныя Штаты стаяць на першым месцы ў спісе краін, якія сярэдні кітаец хоча наведаць або куды паехаць вучыцца.

Аднак варта адзначыць, што гэтае апытанне праводзілася ў Пекіне, Шанхаі і Гуанчжоў — самых эканамічна развітых рэгіёнах Кітая. А даследаванне, якое прайшло тры гады назад, засведчыла: у бедных паўночна-заходніх раёнах толькі 20% дарослых кітайцаў увогуле ведалі пра існаванне Амерыкі.

# Шаманства і будызм у Каралеўстве Бельгія

**З забайкальскай Тувы ў прыатлантычную Бельгію прыехала незвычайная выстава з Тувінскага краязнаўчага музея. У экспазіцыі — прадметы шаманскай атрыбутыкі.**

Выстава будзе падарожнічаць па Бельгіі на працягу трох гадоў. На цырымоніі адкрыцця ў Антвэрпене выступіць доктар гістарычных навук з Тувы Монгуш Кенінлоўсан, які сваю спецыяльнасць абазначае вельмі канкрэтна — шаманазнаўства. Акрамя таго, ён з'яўляецца майстрам традыцыйнага тувінскага мастацтва гарлавога спеву.

Дарэчы, Бельгія — традыцыйна каталіцкая краіна, і цікавасць да паганскіх звычаяў і атрыбутыкі нібыта не павінна заахвочвацца. Аднак, з другога боку, Бельгія мае рэпутацыю і пастаяннага «баламута» ў каталіцкім свеце, многія тэалагічныя навацыі нарадзіліся менавіта ў бельгійскіх універсітэтах, і ніхто не варыць лепшага піва, чым бельгійскія манахі-трапісты. Хто ведае, ці сінтэз тувінскага будызму і шаманства не натхніць бельгійцаў на новыя каталіцкія ідэі?

# Амерыканскім неграм не падабаецца, як іх называюць

**Актывісты негрыцянскіх рухаў у ЗША выступілі з патрабаваннем выключыць са слоўнікаў слова «нігер», якое, як вядома, з'яўляецца зняважлівым і расісцкім.**

Сотні чорнаскурых прынялі ўдзел у пікетаванні выдавецтва «Мэрыэм-Уэбстэр», дзе нядаўна выпусцілі слоўнік, які ўключае гэтае слова. Выдавецтва, тым не менш, не прызнае сваёй віны. У сваёй заяве яно падкрэслівае, што слова з'яўляецца неад'емнай часткай мовы, а пра ягонае абразлівае значэнне ў слоўніку зроблена заўвага. Многія лічаць, што пратэсты чорнаскурых не вельмі падставовыя, бо слова «нігер» часта сустракаецца ў іхняй уласнай мове, у прыватнасці, у песнях музыкаў-рэпераў.

# А вы любіце цёплую гарэлку?

**Вельмі арыгінальны метад барацьбы з алкагалізмам прыдумалі ўлады мексіканскага штата Табаска.**

Тут прыняты закон, які забараняе ўладальнікам усіх кафэ, бараў, рэстаранаў і г.д. прадаваць ахалоджаныя спіртныя напоі і нават піва. На думку ўладаў, жыхары штата, дзе сярэдняя тэмпература нават узімку не апускаецца ніжэй за 30 °С, пры такім надвор'і проста не змогуць піць цёплы алкаголь. Менавіта гэтая акалічнасць нібыта і павінна прывесці да рэзкага зніжэння п'янства.

Аднак, іранізуе карэспандэнт агенцтва *DPA*, паралельна трэба было б увесці забарону на хатнія халадзільнікі і кандыцыянеры. Хоць і гэта наўрад ці дапамагло б.

*Лонданская Times прадракае сапраўдную рэвалюцыю ў медыцыне*

# Рука і сэрца з інкубатара

**Неўзабаве навукоўцы змогуць атрымліваць практычна ўсе органы і часткі чалавечага цела для трансплантацыі, вырошчваючы іх з асобных клетак арганізма.**

Метад заключаецца ў выкарыстанні адмысловага інкубатара, у якім імітуюцца натуральныя ўмовы жаночага ўлоння. Клеткі тканак растуць у такім інкубатары ў адпаведнасці з генетычна запраграмаванай формай і памерам.

Першай выкарыстала гэты метад амерыканка Гейл Нотан: яна «вырасціла» ўжо некалькі каленных суставаў, і ў бліжэйшыя месяцы ў клініках ЗША і Вялікабрытаніі адбудуцца выпрабаванні. Акрамя таго, ужо распрацаваныя тэхналогіі стварэння локцевых суставаў, іншых костак, звязак, храсткоў. На канчатковай стадыі распрацоўкі знаходзяцца метады «вырошчвання» сардэчнай мышцы і печані, аптымістычна запэўнівае *Times*.

# «Крайслер» заплаціць за памылкі інжынераў

**Самы вялікі грашовы штраф з усіх, якія прысуджаліся фірмам-вытворцам, давядзецца заплаціць амерыканскаму аўтамабільнаму канцэрну «Крайслер».**

Вярхоўны суд Злучаных Штатаў Амерыкі пастанавіў, што «Крайслер» абавязаны выплаціць 262 мільёны долараў бацькам дзіцяці, якое загінула ў выніку няшчаснага выпадку з прычыны недахопаў канструкцыі мінівэна — васьмімесцавага «сямейнага» легкавіка «Додж-Караван», які выпускае «Крайслер». Суд разгледзеў падрабязнасці няшчаснага выпадку, калі падчас сямейнай паездкі на павароце адкрылася дзверка аўтамабіля і дзіця выпала проста пад колы машыны, што ехала следам. Суд у сваім рашэнні пацвердзіў, што гэта здарылася выключна з-за недахопаў канструкцыі аўтамабіля. Газеты пішуць, што да гэтага па віне «Крайслера» загінула яшчэ трыццаць шэсць чалавек.

# «Вегетарыянскае» курэнне і шакалад з камп'ютэра

**У Злучаных Штатах з'явіліся ў продажы цыгарэты, якія не ўтрымліваюць нікаціну, а Хітэр Т'юксберы, студэнтка Бірмінгемскага універсітэта ў Вялікабрытаніі, лічыць, што камп'ютэрныя інжынеры і праграмісты абышлі ўвагай вельмі важную рэч — вытворчасць шакаладу.**

Безнікацінавыя цыгарэты «Брава», як паведамляе *Financial Times*, каштуюць па тры з паловай долары за пачак. Вырабляюцца яны зусім не з тытуню, а — з салаты-латука. Фармацэўт Пузант Тарыджыян патраціў амаль 40 гадоў на стварэнне безнікацінавых цыгарэт. Эксперыментаваў з бацвіннем морквы і буракоў, кляновымі лістамі і яшчэ з парай соцень розных раслін і ў выніку прыйшоў да высновы, што ідэальны варыянт — якраз салата-латук.

Тарыджыян ужо спрабаваў выпусціць цыгарэты «Брава» на рынак у канцы 60-х гадоў, але на іх не было ніякага попыту. Цяпер барацьба з курэннем стала масавай кампаніяй у Злучаных Штатах, курцоў становіцца ўсё менш — аднак попыт на салатныя цыгарэты чамусьці не расце. Між тым Тарыджыяну ўжо 75 гадоў... Ён заявіў, што ўжо не прэтэндуе на камерцыйны поспех — ён хоча толькі пакінуць па сабе на Зямлі добры ўспамін, піша *Financial Times*.

А 23-гадовая Хітэр Т'юксберы страшэнна любіць шакалад, і яе дыпломная работа была прысвечаная камп'ютэрнаму мадэляванню вытворчасці гэтага ласунку. Дакладней — яна разлічыла ўсе асаблівасці і нюансы застывання шакаладнай масы. Хітэр падала сваё вынаходніцтва на патэнт і ўпэўненая, што ім зацікавяцца вытворцы шакаладу ва ўсім свеце. «Тэхналогія Т'юксберы», піша лонданская *Times*, дазваляе ствараць шакаладныя вырабы самай фантастычнай формы і пры гэтым звесці на нішто брак у вытворчасці.

*Паласу падрыхтавала* **Магдалена НЕПАКАЙ**

